© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014




# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 17 (45) 2—8 чэрвеня 1993 г. Цана 3 рублі


## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:

- МЫ ПАВІННЫ АБАРАНІЦЬ СЯБЕ
- РАСІЯ ВАЧАМІ ФРАНЦУЗА
- «БУХГАЛТЭРЫЯ» СМЕРЦІ
- ТБ



2 чэрвеня п'есай «Хрыстос і Антыхрыст» Д.Мяражкоўскага распачынаюцца ў Віцебску гастролі Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра Беларусі.

**На здымку:** сцэна са спектакля. Аляксей—арт. **М. Шадзько**, Афанасьеў—арт. **Э. Гарачы**.

Фота **Ю. Іванова.**

## Заява Выканкама Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-дэмакратычнай грамады

**Выканкам ЦР адзначае, што палітыка Урада Рэспублікі Беларусь, якая ў апошні час накіравана на павелічэнне знешняга доўгу і адмову ад бязвыплатнай прыватызацыі, вядзе да далейшага збяднення насельніцтва і перакладае вынікі пралікаў Урада на плечы простых людзей, якія не толькі застануцца без уласнасці, але і трапяць у даўжнікі па сумніцельных валютных аперацыях.**

**У сувязі з гэтым выканкам ЦР БСДГ лічыць неабходным:**

**1. У кароткі тэрмін правесці незалежную экспертызу ўсіх валютных праектаў Урада.**

**2. На чарговай сесіі Вярхоўнага Савета паставіць пытанне аб рэалізацыі Урадам зацверджанай вышэйшым заканадаўчым органам улады канцэпцыі прыватызацыі, згодна з якой 50 працэнтаў прыватызуемай уласнасці павінна быць перададзена грамадзянам бясплатна.**

**ВЫКАНКАМ ЦР БСДГ.**

## Яшчэ працуе. Зазірніце

Працягвае працаваць адкрытая 18 траўня выстава «Скарбы гісторыі», складзеная з нядаўніх набыткаў абласнога краязнаўчага музея.

Гэта ці не першае значнае мерапрыемства музея пасля завяршэння рамонту яго-нага будынка. Нягледзячы на высокі ўзровень шэрагу мастацкіх твораў, сапраўдную гістарычную каштоўнасць многіх прадстаўленых у экспазіцыі рэчаў, некаторыя выстаўленыя прадметы хутчэй нагадваюць шырспажыў, чым скарбы для гісторыі. На жаль.

**Ю. Т.**

## А «нашы» «Віцьбічы» засталіся...

У пятніцу адбылося чарговае пасяджэнне Віцебскага гарвыканкама. Сярод шматлікіх розных па важнасці праблем, што абмяркоўваліся на ім, было й жыллёвае пытанне, якое вельмі хвалюе гараджан.

Добра разумеючы гэта і баючыся расстаўляць усе кропкі над «і» ў прысутнасці журналістаў, старшыня гарвыканкама В. Неушаў пры маўклівай згодзе народных дэпутатаў змусіў прадстаўнікоў прэсы пакінуць памяшканне. Аднак ён дазволіў застацца на пасяджэнні карэспандэнтцы «Віцьбічаў» і надалей, каб «калі будзе такая неабходнасць» асвятліць рашэнне выканкама па балючых жыллёвых праблемах.

Назіральнік.

Ад рэдакцыі: Як ужо мы пісалі ў папярэдніх нумарах газеты, «дэмакратыя» па-абкамаўску пачынае дзейнічаць. Але выклікае здзіўленне не гэтае, а тое, што ўсё адбывалася ў прысутнасці старшыні камісіі па дэмакратызацыі і галоснасці гарсавета, галоўнага рэдактара «Віцьбічаў» Н. Тулінавай, каторая нават і брывом не варухнула.

Хацелася б даведацца ў пракуратуры вобласці, наколькі патрабаванне старшыні гарвыканкама стасуецца за арт. 24 Закона аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі? А можа быць гэткі закон ужо не дзейнічае ў межах горада?

## Немцы Віцебска аб'ядноўваюцца

Гарвыканкам зарэгістраваў як незалежнае дабраахвотнае аб'яднанне грамадзян Віцебскі саюз немцаў. Ён мае па мэце адраджэнне нацыянальнай моўнай і культурнай самабытнасці немцаў. Кіраўніком ВСН стаў Сяргей Літау.

«Наш саюз,—гаворыць каардынатар новай арганізацыі Віктар Вільман,—намераны ажыццяўляць пасрэдніцкія функцыі ў развіцці і замацаванні беларуска-германскіх узаемаадносінаў і супрацоўніцтва між двума народамі ў эканамічнай, навукова-тэхнічнай, экалагічнай, гуманітарнай галінах.

Мы звяртаемся да немцаў, што жывуць у горадзе, з просьбаю адгукнуцца на мой адрас: 210022, г. Віцебск, вул. Чкалава, д. 16, к. 2, кв. 4».

**Ю. С.**

## Здрада!

**Здаецца, так можна ацаніць дзеянні супрацоўнікаў Лёзненскага РАУС, пра якія паведаміла 22 траўня «Звязда» ў артыкуле «Хлеб пахне порахам».**

Па наводцы нашых міліцыянераў іхнія калегі з Руднянскага РАУС Смаленскай вобласці са зброяй у руках уварваліся ў вёску Калышкі, што на Лёзненшчыне, арыштавалі і вывезлі ў Расію трох беларускіх прадпрымальнікаў.

У Лёзненскім райаддзеле ўнутраных спраў і пракуратуры раёна карэспандэнту «Выбара» гэты факт падцвердзілі, заявіўшы аднак, што прадпрымальнікі самі вінаватыя. Парушылі расійскае заканадаўства пры вывазе грузу пшанічнай мукі з Расіі, магчыма, далі хабар расійскім мытнікам—двое з іх арыштаваныя. А ў Калышках беларускія бізнесмены быццам бы хацелі перапрадаць свой груз прыбалтам—у вёсцы знаходзіўся нейкі аўтамабіль з прыбалтыйскім нумарам.

Раённая пракуратура працягвае следства па гэтай справе. Дзеянні работнікаў РАУС правярае міністэрства ўнутраных спраў Беларусі і Віцебскае абласное УУС. Грамадзянін Беларусі Уладзімір Казлоў, які на момант з'яўлення матэрыяла ў «Звяздзе» знаходзіўся ў Рудні, вызвалены.

Цяжка адназначна ацаніць учынкі нашых прадпрымальнікаў—у гэтай гісторыі яшчэ шмат няясначаў. А што тычыцца лёзненскіх міліцыянтаў, то тут усё зразумела. Замест таго, каб разабрацца ў справе самім, яны выклікалі расійскіх калегаў.

Але што дзівіцца з нашае міліцыі, калі курс на дзяржаўную здраду трымае наменклатурная большасць Вярхоўнага Савета ды ўрад?

**А. БУКАЧОЎ.**

## У наступным нумары

**Наша выданне надрукуе даклад Зянона Пазьняка «Беларускі Народны Фронт і развіцьцё палітычных працэсаў на Беларусі», з якім ён выступіў 29 чэрвеня на III з'ездзе БНФ у Менску.**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Мы павінны абараніць сябе

## *І. У прыродзе і грамадстве*

Імкненне любой сістэмы да самаабароны і самазахавання—універсальны закон прыроды. Назіраем гэта ў фізіка-хімічных (прынцып Ле-Шатэлье), біялагічных (актывізацыя лейкацытаў пры пападанні заразы ў арганізм) сістэмах. Аўстрыйскі псіхолаг З. Фрэйд сцвярджаў, што інстынкт самазахавання разам з інстынктам працягу роду ёсць аснова псіхікі. Расейскі палітычны дзеяч У. Ульянаў казаў, што «любая рэвалюцыя тады чаго-небудзь вартая, калі яна ўмее абараняцца».

Так, самазахаванне ўласціва і сацыяльным сістэмам. Калектыў адкрыта або маўкліва змагаецца са спробамі расфармавання—гэта нармальна. Жыхары Паўночнай Ірландыі ў адказ на англійскую каланізацыю арганізуюць тэрарыстычныя акты—гэта можна зразумець. Іншадумцы А. Сахараў, А. Салжаніцын, У. Букоўскі, М. Кукабака цкаваліся ўладамі СССР —сістэма абараняла сябе. Гэтая ж ідэя ў арт. 2385 раздзела 13 Крымінальнага Кодэкса ЗША: «Наўмысныя або свядомыя заклікі, заахвочванне, парады або прапаганда неабходнасці, абавязку, пажаданасці або мэтазгоднасці звяржэння або знішчэння ўраду ЗША або ўраду любога штату... або... з намерам дамагчыся звяржэння або знішчэння любога такога ўраду, друкаванне, публікацыя, рэдагаванне, распаўсюджанне або выстаўленне на публічны агляд любога друкаванага матэрыяла, які заклікае, раіць або прапагандуе неабходнасць, абавязак, пажаданасць або мэтазгоднасць звяржэння любога ўраду ў ЗША гвалтам або беспарадкамі або спробы да гэтага... караюцца штрафам да 20 тыс. даляраў, альбо турэмным зняволеннем да 20 гадоў, альбо абодвума відамі пакарання». Падрабязная рэгламентацыя закона абараняе дэмакратыю і суверэнітэт краіны.

## *2. У нас*

А ў нас ствараюцца антыдзяржаўныя арганізацыі, якія беспакарана і таму нахабна прапагандуюць антыбеларускія ідэі ў друку, па ТБ і па радыё. Жвавыя асобіны, што прадстаўляюцца то членамі «Белой Руси», то функцыянерамі «Славянского Собора», то ўвогуле абуранымі падданымі Савецкага Саюза, не баючыся і не саромеючыся, прасоўваюць свае думкі праз «Мы и время», «Славянские ведомости», «Политику. Позицию. Прогноз», «Віцьбічы» і да т. п.

У першых двух выданнях багата лексічна-палітычных наватвораў: «демонократы», «дерьмократы», «ельциноиды», «Е.Б.Н.» (так мілагучна скарачаюць гаротнага расейскага прэзідэнта), так што без падрыхтоўкі можаш не дапетрыць. Што ні кажы, сталіца. Але ж і мясцовы друк часам выдае такі посткамуністычны водар (сугучна расейскаму «одурь»), што лепш не варушыць і не ўступаць.

Сімптаматычная размова з сакратаркай Менскага абкама ВКПБ Л. Паўловіч («Віцьбічы», № 42):

Л. Паўловіч. Сейчас наша Родина оккупирована.

Карэспандэнт. И как долго продлится эта оккупация?

Л. Паўловіч. До тех пор, пока не будет восстановлен Советский Союз.

Вось нехта А. Мішурны (№ 52) у артыкуле «А надо ли белорусам бояться слова «империя»?» скрупулёзна падзяляе нас аж на чатыры этнасацыяльныя групы, супрацьпастаўляе, дэманструе сваё няведанне беларускае гісторыі і напрыканцы пераможна заяўляе, што «ошибаются те историки, которые утверждают, что время империй миновало». Я адразу ўявіў аўтара, згадаўшы карыкатуру на Луі Напалеона III са школьнага падручніка найноўшае гісторыі: чалавекападобны дзікабраз, ашчэрыўшыся штыкамі, вяшчае: «L'Empire c'est la paix» («Імперыя—гэта мір.»)

А то раптам пад паўпіянерскім заклікам «Будь готов спасать Россию!» газета з пафасам анансуе «дивное эссе г-на Жириновского» і опус нейкага С. Лукіна, які тлумачыць няўцямным, «что губит белорусский язык» (№ 54).

Сумніцельнае шчасце—быць падпісчыкам газеты, рэдакцыя якой жыве нянавісцю да ўсяго беларускага і тугой па былой імперыі. Такое ўражанне, што яе аўтары, нібы Афрадыта з марское пены, нарадзіліся з архіўнага пылу і жывуць ва ўяўным свеце раманавых, мураўёвых, сталыпіных ды сталіных. Яны свядома імкнуцца раскалоць нас, адзіны беларускі народ, падзяліўшы па нацыянальнай прыкмеце. Вось цікавая цытата С. Голубева (№ 49): «...Есть борцы за национальное возрождение и среди депутатов горсовета. Скажем, болгарин Х. Желяпов, покинувший свою Родину и потому, наверно, считающий себя вправе поучать других...»

Няма сэнсу дыскутаваць з гэтымі людзьмі па сутнасці. Яны не здольны прачытаць ніводнага радка, каб не вычытаць чагось абсалютна супрацьлеглага. Супраць людзей, што замахваюцца на дзяржаўнасць, суверэнітэт, свабоду твайго народу, святы абавязак—змагацца ўсімі магчымымі сродкамі. Бо гэта не палітычныя апаненты. Гэта—ворагі.

## *3. У органах улады*

За распальванне міжнацыянальнай варожасці дамарослыя самадзяржаўнікі могуць быць прыцягнуты да адказнасці.

Калі ў Маскве «чырвона-карычневымі» быў утвораны Фронт нацыянальнага выратавання, ён неўзабаве быў забаронены прэзідэнцкім указам. І гэта ў Маскве, дзе імперская ідэя мае ці мала прыхільнікаў.

На Беларусі ж кола адэптаў імперыі абмяжоўваецца членамі памянёных арганізацый. Не толькі з-за агіднасці самой ідэі. Згадайма тут выказванне З. Пазьняка пра тое, што ніводны рух на Беларусі зараз не можа стаць масавым. Дык хто перашкаджае забараніць дзейнасць антыбеларускіх сіл? У застойныя гады КДБ рупліва «пас» «антысавецкія» сілы, хаця іншадумцы не выступалі супраць суверэнітэту Савецкага Саюза.

Аднак не ўсё гэтак проста. Гэтыя сілы маюць сваіх апекуноў у органах улады. Невыпадкова антыбеларуская дрыстуха забурапеніла ў гарадской газеце пасля інтэрв'ю з нова-абраным старшынём гарсавета. Ёсць самадзяржаўнікі сярод дэпутатаў Вярхоўнага Савета краіны. І гэта, бадай, галоўнае.

## *4. У будучыні*

Узгадайма жнівень 1991 г. у Маскве. Імперская вярхушка разумела, што яе дні злічаны. І тады яна паспрабавала арганізаваць пераварот. Але авантура ляснулася, дзякуючы супраціўленню народу і асабліва масквічоў. Урад Расіі абараняе інтарэсы сваіх грамадзян. Што да Беларусі, то як зазначыў З. Пазьняк, у любой краіне ўрад або пачаў бы змагацца за суверэнітэт свайго народу, або проста перастаў існаваць. Толькі не ў нашай.

Як даводзілі наш народ да такога стану нацыянальнай свядомасці—тэма некалькіх лекцый. Адзначу толькі, што вядомая ўсім талерантнасць беларусаў абарочваецца супраць іх саміх. У часы Вялікага Княства Літоўскага талерантнасць была забяспекай згоды ў дзяржаве пры сталай магчымасці агрэсіі з Усходу. Але калі трэба асадзіць сапселага невука, які пагарджае тваім народам увогуле і табой асабіста—бяздзейнічаць нельга.

Страчана не ўсё. Як вынікае з характарыстыкі беларусаў у армейскім «Справочнике политработника» даперабудовачнага часу з грыфам «Для службовага карыстання», лепшых воінаў няма. Аднак, як кажуць, на вайне як на вайне. Там на поўную магутнасць працуе інстынкт асабістага самазахавання. На жаль, у мірны час гэты ж чалавек можа дазваляць усялякім ашуканцам ладзіць змовы супраць свайго народу. Вядома, гэтага б не адбывалася, каб чалавек адчуваў сябе часцінкай вялікай супольнасці—нацыі.

Савецкі Саюз ужо не паўстане, гэта відавочна.

Развіццё краін – суседзяў па шляху нацыянальнай незалежнасці, вывучэнне сапраўднай гісторыі Беларусі ў школах—гэтыя фактары пры няўхільным выкананні Закона аб мовах у бліжэйшыя часы зробяць рашаючыя зрухі ў свядомасці нашых грамадзян, ператвараючы іх з бяздумных выканаўцаў у свядомых патрыётаў. Адраджэнне стане незваротным.

Так будзе, калі актывісты АПЗ (Антыбеларускай партыі Здрады) не справяць за гэты час які-небудзь генеральны агульнарэспублканскі шабас. І каб гэтага не здарылася, мы павінны быць гатовыя абараніць сябе.

**Уладзімір СПАБІЧ**

# УСХОДНІ СУСЕД БЕЛАРУСАЎ ВАЧЫМА ФРАНЦУЗА XIX СТАГОДДЗЯ

Рускі дзяржаўны лад—гэта строгая ваенная дысцыпліна замест грамадзянскага кіраваньня гэта—перманентнае ваеннае становішча, якое стала нармальным станам дзяржавы.

Увогуле я на кожным кроку ўражваўся тут (у Пецярбургу) дзіўнаму зьмешваньню двух так адрозных адзін ад другога мастацтваў—архітэктуры і сцэнічнай дэкарацыйнасьці. Міжволі здаецца, што Пётр Вялікі і ягоныя пераемнікі хацелі пераўтварыць сваю сталіцу ў агромністы тэатр. І ўсё ж шпацыр па вуліцах Пецярбурга ў вышэйшай ступені цікавы, хаця і не падобны зусім на шпацыры па сталіцах іншых краін цывілізаванага сьвету.

...Венецыя і Амстэрдам здаюцца мне значна болей абароненымі супраць мора, чым разьмешчаны на Няве Пецярбург. Вядома, блізкасьць шырокай як возера ракі, працякаючай па свайму глыбокаму рэчышчу сярод балоцістай раўніны пад спрадвечна вільготным небам і пагрозьлівым подыхам мора, зьяўлялася найменей спрыяльнай умовай для закладаньня менавіта тут сталіцы дзяржавы. Рана ці позна вада праглыне гэтае ганарлівае стварэньне чалавека!

...Калмыцкая арда, разьмешчаная ў кібітках ля падножжа антычных храмаў, грэчаскі горад, імправізаваны для татараў у якасьці тэатральнай дэкарацыі, прыўкраснай, але безгустоўнай, за якой хаваецца самая сапраўдная і страшная драма—вось што кідаецца ў вока пры першым паглядзе на Пецярбург.

...Я схіляю галаў перад магутнай воляй (Пятра І), што паклікала да жыцьця на абледзянелым у працягу васьмі месяцаў за год балоце гэтакі горад як Пецярбург. Але мой густ абураецца пры выглядзе тых няшчасных зьлепкаў з клясычнай архітэктуры, каторымі ён і ягоныя пераемнікі ўзнагародзілі Расію і гэтым зрабілі зь яе пародыю на Грэцыю і Італію. У архітэктуры ёсьць каштоўнасьцю ўмельства самым протым і прамым шляхам прыстасоўваць будынкі да мэты прызначэньня. Дзеля чаго, пытаймася, панаставілі столькі пілястраў, аркадаў і калянадаў у горадзе, у якім можна жыць толькі за шчыльна ўканапачанымі падвоенымі рамамі ў вокнах?

...Адзін даволі разумны маскоўскі жыхар заявіў мне аднойчы, што ня бачыў нічога для сябе новага ў Італіі. Мы, жыхары Масквы і Пецярбурга,—казаў ён,—ня можам там захапляцца італьянскай архітэктурай як вы! У нас маюцца ейныя ўзоры ў любым з нашых гарадоў на кожным кроку! Я меў добры розум задавіць прыступ весялосьці, але ў думках адзначыў: з такім жа посьпехам вы можаце заявіць, што не жадаеце глядзець на Апалона Бельведэрскага, бо маеце гіпсавы зьлепак зь яго. Недалёка пойдзеце вы наперад, калі будзеце ганіць усё вам незразумелае.

Іхнае самазадавальненьне пашыраецца нават на клімат і глебу. Па натуры схільныя да хвалькоўства, яны ганарацца сваёй прыродай, гэтак жа як і акаляючым іх грамадзтвам.

...І ўсё ж што б ні казаў і не рабіў гэты натоўп, ягоны энтузіязм здаецца мне вымушаным, ягоная любоў да цара нагадвае мне любоў статка да свайго пастуха, які статак корміць, каб затым паслаць на бойню. Народ без свабоды мае інстынкты, але ня мае разумных пачуцьцяў. Гэтыя інстынкты праяўляюцца часам у дзікіх, пачварных формах. Рабскае захапленьне, бязьмерны фіміам, якія ўрэшце становяцца няўсьцерп богападобнаму ідалу, увесь гэты культ богаўпадабленьня свайго манарха перарываецца раптам страшнымі, крывавымі антрактамі. Рускі ўзор кіраваньня—гэта абсалютная манархія, абмежаваная забойствам. Рускі імператар вечна жыве пад гнётам ці страху, ці перанасычэньня. Калі гонар дэспата патрабуе сабе рабоў, то чалавек шукае сабе роўных. Цар сабе роўнага ня мае. Этыкет ды зайздросная рэўнасьць нязьменна стаяць на варце ягонай адзіноты. Рускі манарх яшчэ болей варты жалю, чым ягоны народ, асабліва калі ён сабой нешта ўяўляе.

Я не асуджаю рускіх за тое, якія яны, але я не ўхваляю ў іх памкненьня здавацца тымі ж, што і мы. Яны яшчэ цалкам некультурныя. Гэта не пазбаўляла б іх надзеі стаць такімі, калі б яны не былі засяроджаным жаданьнем браць прыклад зь іншых нацый, сьмеючыся ў той жа час з тых, каму нашчадуюць. Міжволі мусіш меркаваць, што гэтыя людзі страчаныя для першабытнага стану і няздатныя да цывілізацыі.

У гісторыю Расіі ніхто, акрамя гасудара, не выконваў таго, што было ягоным абавязкам, ягоным прамым прызначэньнем— ні дваранства, ні духавенства. Пад'яромны народ заўсёды варты свайго ярма: тыранія— гэта стварэньне пакоранага ёй народа. Ня пройдзе і 50 гадоў, як ці цывілізаваны сьвет зноў падпадзе пад прыгнёт варвараў, ці ў Расіі ўздыбіцца рэвалюцыя значна страшнейшая, чым тая, наступствы каторай Заходняя Еўропа пачувае да гэтай пары.

Славяне, па крайняй меры прыгожыя прадстаўнікі расы, маюць зграбную і вытанчаную фігуру, якая разам з тым дае ўяўленьне пра сілу. Вочы ў іх міндалепадобныя, часьцей за ўсё чорныя ці блакітныя, заўсёды ясныя і празрыстыя, але погляд схоўніцкі і плутаваты, як і ва ўсіх азіяцкіх народаў. Калі гэтыя вочы сьмяюцца, яны становяцца жывымі, рухавымі і вельмі прываблівымі. Рускі народ, сур'ёзны больш па неабходнасьці, чым па прыродзе, асьмельваецца сьмяяцца

(Заканчэнне на 3-й стар.).



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

*Весткі з раёнаў*

## Дуброўна—горад радыёактыўны!

Увагу многіх дубровенцаў прыцягнула металёвая шыльда жоўтага колеру, што нядаўна з'явілася на ўездзе ў Дуброўна з боку суседняе Оршы. Чорныя лічбы папярэджвалі грамадзян аб наяўнасці пэўнага ўзроўню радыяцыйнага забруджвання.

На думку галоўнага санітарнага ўрача раёна У. Красніцкага, хтосьці няўдала пажартаваў, устанавіўшы на ўездзе ў горад знак-указальнік, прывезены з забруджаных паўднёвых раёнаў рэспублікі. Бо радыяцыйны фон у Дуброўна і ваколіцах паводле дадзеных раённага цэнтра гігіены й эпідэміялогіі не перавышае норму.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**

Прадам дадаткі да «Навінаў БНФ»—«Здрада» ды «Праект праграмы БНФ». Тэл. у Віцебску **37-28-44.**

*У мясцовых філіях*

## Дэмакраты пра чацвёртую ўладу

Адбылося сумеснае пасяджэнне гарадскога клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» і Віцебскай Рады БНФ. На ім абмеркаваны пытанні, звязаныя з працаю «Выбара». Удзельнікі пасяджэння па-рознаму ацанілі газетныя публікацыі, але прыйшлі да высновы, то выданне патрабуе пастаяннай увагі й падтрымкі ўсіх дэмакратычных сілаў.

З гумарам успрынялі бээнэфаўцы паведамленне пра з'яўленне ў «Советской Белоруссии» артыкула Л. Маслюковай аб дапамозе нінбуржцаў віцебскім дэмакратам «Мы й марыць не маглі пра такую рэкламу нашай дзейнасці на ўсю рэспубліку» —сказаў кіраўнік гарадской Рады Фронту М. Паўлаў.

Іншыя ж прыхільнікі дэмакратыі адзначылі хібы матэрыяла «СБ», што сведчыць пра яўную недастатковую інфармаванасць аўтаркі.

**М. КАЛІНОЎСКІ.**



Час дзьмухаўцоў.

Фота **А. МЕМУСА.**

## Выстава-успамін аб сябры

Аматараў аўтарскай песні засмуціла нечаканая заўчасная смерць віцебскага барда Аляксандра Лапаціна.

Прыяцель Аляксандра, мастак Алесь Пушкін, з дапамогаю прыхільнікаў творчасці нябожчыка адкрыў у сваёй прыватнай галерэі выставу, прысвечаную жыццю Лапаціна. Аснову экспазіцыі выстаўкі складаюць творчыя працы, уласныя рэчы барда.

**Ю. ТУТЭЙШЫ**

*Мастацкія фільмы на рэшту тэлетыдня*

### Серада, 2 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

9.20 і 21.35. «Мачаха».

**Канал «Астанкіна»**

8.35 і 18.00. «Проста «Марыя».
11.20. «Жыццё і прыгоды чатырох сяброў». 2-я, 3-я і 4-я серыі.
12.50. «Аднакашнікі».

**Канал «Расія»**

11.00. «Скачок Вертава».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.05. «Мая другая мама».
10.05. «Урокі ў канцы вясны».
12.05. «Сем шчаслівых нот».
15.20. «Чужыя пісьмы».

### Чацвер, 3 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

9.20 і 21.35. «Мачаха».

**Канал «Астанкіна»**

8.25 і 18.00. «Проста Марыя».
11.20. «Станцыйны даглядчык».
21.25. «Шлях у вышэйшы свет».

**Канал «Расія»**

8.15. «Шалёная Лоры».
11.00 і 19.25. «Санта-Барбара».
13.25. «Хроніка пікіруючага бамбардзіроўшчыка».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.05. «Чужыя пісьмы».
12.05. «Лета ў Беражках».
20.55. «Мая другая мама».

### Пятніца, 4 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

9.20. «Мачаха».
10.50. «Віядук».
22.00. Пасля заканчэння Нікі—«Нью-Ёрк, 4 раніцы» Польшча).

**Канал «Астанкіна»**

8.20. «Мар'я-мастачка».
20.55. «Смерць у кіно».

**Канал «Расія»**

11.05. «Санта-Барбара».
16.55. «Сасланы на планету Зямля».
19.25. «У смерці дрэнная слава».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.05 «Мая другая мама».
23.05. «Трыумф 10-ці гладыятараў» (ЗША).

### Субота, 5 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

9.00. «Нью-Ёрк, 4 раніцы» (Польшча).
16.20. «Мы—вундэркінды».
21.35. «Кола».

**Канал «Астанкіна»**

11.45. «Валерый Чкалаў».
18.40 і 20.40. «Апошнія дні Пампеі». 6-я і 7-я серыі.

**Канал «Расія»**

11.00. «Заложніца».
19.25. «Паміраць не страшна».
23.35. «Сем нявест яфрэйтара Збруева».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.25. «Трыумф 10-і гладыятараў» (ЗША).
20.40. «Мая другая мама».

### Нядзеля, 6 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

9.40. «Мачаха».
16.45. «Нічога святога» (ЗША).

**Канал «Астанкіна»**

11.05. «Прыгоды Чорнага Прыгажуна».

**Канал «Расія»**

11.00. «Дуброўскі».
19.25. «Тата, які ўсё кінуў».

*Беларускі друк—да вашых паслуг!*

## А ў Віцебску кепска... з падпіскай

Падпісная кампанія гэтага паўгоддзя хоць і не правалена, яе вынікі будуць горшыя, чым папярэдняй. Да апошняй дэкады траўня падпісана 65,9% ад агульнай колькасці экземпляраў, якія дастаўляліся віцяблянам пасля 1 студзеня.

Рост цэн, пераарыентацыя маскоўскай прэсы на расійскага чытача змусілі многіх віцяблянаў адмовіцца ад газет ды часопісаў усходняга суседа. Усё больш і больш праглядаецца жаданне гараджан атрымліваць беларускую інфармацыю з акцэнтам на мясцовыя навіны. Таму й многія рэспубліканскія газеты не падтрыманы падпісчыкамі так, як тутэйшы друк.

Найбольшая цяжкасці ў моцна русіфікаваным Віцебску сустрэла беларускамоўная і двухмоўная (варта падкрэсліць: сапраўды двухмоўная) прэса. «Звязда» пакуль набрала 674 «галасы», «Літаратура і мастацтва»—140, «Чырвоная змена»—42, «Настаўніцкая газета»—150... Двухмоўны «Беларускі час» знайшоў да 15 траўня 428 прыхільнікаў, народныя «...газета» і «...слова»—па 3404 і 1639.

Але канчатковы «прысуд» выносіць рана. Падпіска завяршаецца 4-га. Яе рэзультаты стануць вядомыя праз колькі дзён.

**М. ВАЛАЧОБНІК.**

### Шаноўная рэдакцыя «Выбара»!

Дазвольце праз Вашу газету выказаць сардэчную падзяку ксяндзу касцёла св. Варвары айцу Янушу, старасту касцёла Элі Міснік, а таксама прыхаджанам Рэні і Гене, а разам з тым усім іншым, хто прымаў дзейсны ўдзел у адраджэнні інтэр'ера храма, не шкадуючы ні асабістага часу, ні сілаў дзеля высакароднае справы.

Дзякуй усім за добрыя адносіны, сардэчную ўвагу і душэўную шчырасць, якія спрыялі нашай паспяховай рабоце па вяртанню храму яго першапачатковага характва.

З удзячнасцю, брыгада тынкоўшчыкаў у складзе **В. Р. Клімянкова (брыгадзір), В. Р. Капойка, В. М. Капойкі, У. А. Талкачова.**







Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

**Галоўны рэдактар Барыс ХАМАЙДА**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Валянцін АРЛОЎ**
**Хрыстафор ЖАЛЯПАЎ**
**Васіль ІГНАЦЕНКА**
**Юры ЛАЎРЭНАЎ**
**Ларыса МІХНЕВІЧ**
**Міхась ПАЎЛАЎ**
**Уладзімір ПЛЕШЧАНКА**
**Леанід ТАМАРОВІЧ**
**Ігар ЦІШКІН**

Мастак Р. Клікушын.
Фотаздымкі М. Міхайлава.
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17
Тэл. 37-35-06, 37-28-44.

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

**Пры перадруку спасылка на «Выбар» абавязковая.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

**Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.**

**Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.**

Выходзіць штотыднёва па серадах

Нумар падпісаны да друку 1.06.1993 г. у 17.15.

Наклад 1500 экз.

**Цана 3 руб.**




© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014